**Гродна**
№2 (508),
27 студзеня 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Служыць Божай праўдзе пра чалавека і свет



**24 студзеня журналісты, што называюць сябе католікамі, адзначаюць сваё прафесійнае свята, паколькі ў літургіі Касцёла ўспамінаем св. Францішка Сальскага – заступніка каталіцкай прэсы. З гэтай нагоды варта ўзгадаць, якім чынам прадстаўнікі хрысціянскіх СМІ шляхам абмену духоўных дабротаў паміж членамі Касцёла садзейнічаюць умацаванню яго адзінства, адкуль чэрпаюць натхненне і чаму хочуць абвяшчаць Евангелле ўсяму свету.**

• працяг на с. 3

# Міфы пра манаства



**У свята Ахвяравання Пана, 2 лютага, у Каталіцкім Касцёле адзначаецца Сусветны дзень кансэкраванага жыцця. У гэты час мы звяртаем асаблівую ўвагу на сведкаў прысутнасці Бога ў свеце – на манаскіх сясцёр і братоў, а таксама асоб, якія абралі індывідуальнае кансэкраванае жыццё па-за кляштарам.**

• працяг на с. 5

**“Правільнасць крыніц – гэта сапраўдны працэс развіцця дабра”. Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### III ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 1, 1–4; 4, 14–21**

Паколькі многія браліся скласці апавяданне пра падзеі, якія адбыліся сярод нас, як перадалі нам тыя, хто ад пачатку быў відавочцам і слугою слова, вырашыў і я дакладна прайсціся па ўсім ад пачатку і апісаць табе ўсё па парадку, найшаноўнейшы Тэафіле, каб ты пазнаў праўдзівасць таго, чаму ты быў навучаны.

У той час Езус вярнуўся ў моцы Духа ў Галілею і разышліся чуткі пра Яго па ўсёй ваколіцы. Ён навучаў ва ўсіх сінагогах, і ўсе Яго славілі. І прыйшоў Ён у Назарэт, дзе быў выхаваны, і ўвайшоў, паводле свайго звычаю, у дзень суботні ў сінагогу, і ўстаў, каб чытаць. Яму падалі кнігу прарока Ісаі. Ён, разгарнуўшы кнігу, трапіў на месца, дзе было напісана: "Дух Пана на Мне, бо Ён намасціў Мяне абвяшчаць добрую навіну ўбогім, паслаў Мяне абвяшчаць вызваленне палонным, і сляпым вяртаць зрок, каб выпусціць спакутаваных на свабоду, каб абвясціць год ласкі Пана". Закрыўшы кнігу, Ён аддаў яе слузе і сеў. А вочы ўсіх у сінагозе былі скіраваныя на Яго. І Ён пачаў гаварыць ім: "Сёння споўніліся гэтыя словы Пісання, якія вы чулі".

### ДОБРАЯ НАВІНА

Кожны чалавек, які жыве на зямлі, у пэўнай ступені з'яўляецца хворым, знаходзіцца ў няволі ўласных падзенняў і залежнасцей, пакутуе ад духоўнай слепаты. Як падае Святое Пісанне, Хрыстос прыйшоў у свет, каб абвяшчаць убогім Добрую Навіну, вязням – свабоду, а сляпым – прасвятленне. Тады на зямлі ўсталявалася Божае Валадарства, якім з'яўляецца вызваленне са зняволенняў, слабасцей і грахоў.

Усе мы закліканы быць людзьмі 8-мі блаславенняў. Аднак на гэтым наша задача не заканчваецца: маем абвяшчаць Евангелле ўсюды там, дзе жывём, працуем і адпачываем, становячыся такім чынам сведкамі Любові ў свеце. Таму давайце прасіць Святога Духа, які пакоіцца на Езусе і праз усё зямное жыццё спадарожнічаў Яму, каб зышоў таксама на нас і ўчыніў здольнымі да прыняцця і адважнага абвяшчэння Добрай Навіны.

**Чым для мяне з'яўляецца Добрая Навіна, абвешчаная Езусам?**

**Ці абвяшчаю я Евангелле?**

### IV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 4, 21–30**

Езус пачаў гаварыць у сінагозе: "Сёння споўніліся гэтыя словы Пісання, якія вы чулі". І ўсе сведчылі Яму і здзіўляліся словам ласкі, якія выходзілі з вуснаў Яго, і казалі: "Ці не сын Юзафа гэта?". І Ён сказаў ім: "Напэўна, скажаце мне такую прыказку: «Лекар, вылечы самога сябе; зрабі і тут, у тваёй бацькаўшчыне тое, што, як мы чулі, сталася ў Кафарнауме»". І сказаў: "Сапраўды кажу вам: ніводзін прарок не з'яўляецца пажаданым на сваёй бацькаўшчыне. Па праўдзе кажу вам: шмат удоваў было ў Ізраілі ў дні Іллі, калі зачыненым было неба тры гады і шэсць месяцаў, так што быў вялікі голад па ўсёй зямлі. І да ніводнай з іх не быў пасланы Ілля, а толькі да жанчыны, удавы, у Сарэпту Сідонскую. Шмат таксама было пракажоных у Ізраілі ў часы прарока Елісея, і ніводзін з іх не быў ачышчаны, апрача Наамана Сірыйца". Пачуўшы гэта, усе ў сінагозе напоўніліся гневам і, устаўшы, выгналі Яго прэч з горада, і павялі на вяршыню гары, на якой быў пабудаваны іх горад, каб скінуць Яго. Але Ён, прайшоўшы паміж іх, адышоў.

### ПРАВАЯ ДАРОГА

Прыведзены фрагмент Евангелля дазваляе нам усвядоміць, што ёсць 2 шляхі, па якіх можа крочыць чалавек. Першы – той, дзе вучэнне Пана Езуса, будуемае на запаведзі любові і міласэрнасці, спіхваецца на абочыну. Другі ж вядзе прама да Бога і адзначаны любоўю ды верным імкненнем за Хрыстом. Чалавек, які выбірае гэты шлях, прагне наблізіць сучаснаму свету вучэнне Збаўцы, сваім жыццём сведчыць аб Яго веліччы і міласэрнасці, весці іншых да Усемагутнага.

Выбар дарогі належыць нам. Бог ніколі нікога не прымушае. Шануе чалавечую волю, пакідае права выбару. Аднак варта памятаць, што Пан "хоча, каб усе людзі былі збаўлены і дайшлі да пазнання праўды" (1 Цім 2, 4).

**Якой дарогай я накіроўваюся да Усемагутнага?**

**Ці служу бліжнім прыкладам любові і міласэрнасці Бога?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

---

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# На хвалу Пана

*Сёння сродкі масавай інфармацыі сталі прасторай, дзе чалавек знаходзіцца штодзённа, нястомна. Як заўважае папа Францішак, "мы жывём у свеце, у якім практычна не існуе амаль нічога, что не было б звязана з медыйным светам". Таму і вядзенне душпастырскай дзейнасці з'яўляецца сёння надзвычай патрабавальным выклікам.*

Прагрэс спрыяе развіццю. Яшчэ 100 гадоў таму людзі не мелі столькі тэхналогій, якія б забяспечвалі такі хуткі доступ да вялікай колькасці людзей і рэальную магчымасць дабрацца "ажно да краю зямлі" (параўн.: Дз 1, 8). Аднак трэба прызнаць, што сучасныя СМІ прапануюць таксама шмат "смерці", неаднойчы навязваючы згубныя для чалавечай душы ідэалогіі, філасофіі і светапогляды. Іх радыкальны і назойлівы свет з'яўляецца сур'ёзнай пагрозай для грамадства, у якім людзі не могуць адрозніць хлусню ад праўды.

Каталіцкі Касцёл адчувае сябе абавязаным распазнаваць знакі часу, інтэрпрэтаваць іх у святле заўсёды актуальнага Евангелля і эфектыўнай рэалізацыі свайго асноўнага задання. У пасланні на 44-ты Сусветны дзень сродкаў масавай інфармацыі папа Бенедыкт XVI трапна адзначыў, што "Бог мае права жыць у кожнай эпосе, каб дзякуючы новым формам камунікацыі магчы вандраваць па вуліцах гарадоў ды стукацца ў дзверы дамоў і сэрцаў".

Касцёлу ХХІ стагоддзя неабходны СМІ, паколькі яны ў значнай ступені палягчаюць абвяшчэнне Добрай Навіны аб Езусе Хрысце. Дзякуючы сродкам масавай інфармацыі Евангелле сёння можа дабрацца да кожнага закутка зямнога шара. Сучасныя тэхналогіі робяць магчымым таксама камунікаванне паміж хрысціянамі з розных старон свету. А гэта спрыяе ўмацаванню пачуцця еднасці і ўсведамленню таго, што існуе мноства людзей, якія вызнаюць тую самую праўду і вартасці. СМІ таксама распаўсюджваюць інфармацыю аб тым, што адбываецца ў Касцёле і як ён рэалізуе сваю місію ў вернасці Хрысту.

**Дарагія Чытачы!**

Варта ўсвядоміць сабе істотную ролю, якую адыгрываюць сродкі масавай інфармацыі ў сучасным свеце, паколькі менавіта ад іх у значнай ступені залежыць, які вобраз Касцёла людзі носяць у сабе. Таму не трэба баяцца новых тэхналогій. Давайце вучыцца выкарыстоўваць іх на хвалу нашага Пана!

---

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ

## ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Камісія па справах сродкаў масавай інфармацыі

Заданне сінадальнай камісіі па справах сродкаў масавай інфармацыі – уважліва прыглядзецца да СМІ Гродзенскай дыяцэзіі, зрабіць ацэнку і вызначыць план на будучыню. Дзякуючы яе дзеянням, абвяшчаемае з яшчэ большай моцай Божае слова павінна дабірацца да шырэйшага кола вернікаў, каб евангелізаваць сучаснага чалавека і фарміраваць яго светапогляд.

### СМІ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

На дадзены момант Гродзенская дыяцэзія мае газету, якая выдаецца на 2-юх мовах. "Слова Жыцця" ўзнікла падчас рэлігійнага адраджэння, калі ў значнай ступені павялічыўся попыт на інфармацыю аб жыцці Касцёла. На працягу амаль 22-ух гадоў свайго існавання гэтая друкаваная крыніца не толькі захавала свайго чытача, але і набыла аўтарытэт сярод іншых каталіцкіх СМІ ў Беларусі.

З 2008 года ў віртуальнай прасторы функцыянуе сайт дыяцэзіі grodnensis.by, які з'яўляецца свайго роду візітнай карткай Касцёла на Гродзеншчыне. Там штодзённа можна знайсці свежыя навіны, фатаграфіі, відэа ды шмат цікавай інфармацыі з жыцця парафіяльных супольнасцей і пастырскай паслугі дыяцэзіяльных біскупаў.

Пачынаючы з 1995 года, пры курыі дзейнічае Выдавецтва Гродзенскай дыяцэзіі, якое плённа спрыяе папулярызацыі рэлігійнай культуры ў шырокім яе значэнні. Выдавецтва рыхтуе да друку новыя кнігі, публікуемыя на польскай, беларускай і рускай мовах.

Важным сродкам евангелізацыі з'яўляецца таксама Дыяцэзіяльная тэлестудыя, мэта якой – распаўсюджванне рэлігійнай культуры і хрысціянскіх каштоўнасцей у грамадстве праз запіс відэа-матэрыялаў.

### ВЫКЛІКІ І ЗАДАЧЫ

Сродкі масавай інфармацыі павінны дапамагчы касцёльнай супольнасці ў рэалізацыі 3-ох асноўных задач:

- служыць адкрыццю на сённяшні свет;
- спрыяць усталяванню дыялогу ўнутры Касцёла;
- палегчыць разуменне менталітэту сучаснага чалавека, якому трэба несці збаўчае пасланне Езуса Хрыста.

Сінадальная камісія прагне падкрэсліць, што дыяцэзіяльныя СМІ з'яўляюцца выдатным інструментам для распаўсюджвання Добрай Навіны сярод людзей, якія жывуць на краі або па-за Касцёлам. Тым не менш, каб дыялог быў адкрытым і плённым, трэба прыстасаваць мову і форму перадачы інфармацыі.

Таксама хочацца звярнуць увагу на неабходнасць павышэння адчувальнасці дзяцей і моладзі, а таксама дарослых на сталае і адказнае выкарыстанне сучасных сродкаў масавай інфармацыі, паколькі па-за станоўчымі аспектамі яны часам утрымліваюць абуральную ці абсалютна ілжывую інфармацыю, якая можа сфарміраваць памылковае светаўспрыманне карыстальніка.

Члены камісіі прагнуць разам шукаць шляхі развіцця дыяцэзіяльных СМІ, каб Евангелле як заўсёды актыўная размова паміж Богам і чалавекам магло дасягнуць сэрца кожнага верніка.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Служыць Божай праўдзе пра чалавека і свет

● працяг са с. 1



**Ірына Жарнасек,**
*галоўны рэдактар часопіса "Маленькі рыцар Беззаганнай"*

*У чым яна, мая крыніца натхнення? Найперш, у Божым слове. Адно што, дзеля таго, каб мець з яго натхненне для творчай працы, для таго, каб асэнсоўваць яго, бачыць, як яно можа дзейнічаць у жыцці сучаснага чалавека, трэба найперш яго чытаць, насычацца ім, разважаць над ім. Стараюся гэта рабіць. Імкнуся шукаць у ім адказы на тыя пытанні, якія ўзнікаюць і ў маім асабістым жыцці, і ў жыцці тых, з кім сустракаюся. І ўсё больш і больш разумею, як гэта важна – навучыцца глядзець на свет праз прызму Святога Пісання. Наколькі важна самой жыць Евангеллем.*

*Ёсць шмат каментарыяў да Святога Пісання. Але і ў іх можна часам загубіцца. Таму я вельмі палюбіла біблійны курс "Эмаўс", які час ад часу збірае нас, закаханых у Божае слова, на сустрэчы. Яны адбываюцца ў рэкалекцыйным доме ў Оршы. На гэтых занятках можна занурыцца на глыбіню Божага слова і з дапамогаю багаслова знайсці шмат нечаканых адказаў на многія пытанні сучаснага жыцця, якія хвалююць не толькі мяне асабіста, але і тых, хто становіцца героем маіх тэкстаў для каталіцкіх выданняў.*

*Мінулым летам выйшла ў свет мая кніга хрысціянскіх апавяданняў для дзяцей "Незабудкі". Здавалася б, дзеці яшчэ не ўмеюць глядзець на свет праз прызму Божага слова, але мы, дарослыя, мусім дапамагчы ім у гэтым. І таму я да кожнага апавядання падабрала кароценькі фрагмент з Бібліі. Нам трэба вучыцца бачыць ва ўсім, што з намі адбываецца, руку нашага Пана і Збаўцы Езуса Хрыста. Ну то і навучымся ж разам!*



**Крыстына Лялько,**
*галоўны рэдактар часопіса "Наша Вера", рэдактар часопіса "Ave Maria"*

*"Ідзіце па ўсім свеце і абвяшчайце Евангелле ўсякаму стварэнню" (Мк 16, 15). Думаю, што гэты наказ, які даў уваскрослы Збаўца сваім вучням, застаецца ўвесь час актуальны для кожнага хрысціяніна, а тым больш для хрысціянскай журналістыкі, у тым ліку і сённяшняй, бо "гора мне, калі я не абвяшчаю Евангелля" (1 Кар 9, 16).*

*Сёння няма патрэбы "выходзіць на дахі дамоў" для абвяшчэння Добрай Навіны, бо тэхналогіі дазваляюць рабіць гэта не пераступаючы парога ўласнага пакоя. Але, як вядома, тэхнічны прагрэс спарадзіў і цэлы шэраг адмоўных з'яў, такіх, напрыклад, як фальшывыя, фэйкавыя навіны. Таму адна з найважнейшых функцый хрысціянскай журналістыкі – несці людзям Божую праўду: "Пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас" (Ян 8, 32). Сёння вельмі актуальна дапамагаць людзям "адвейваць" зерне праўды ад мякіны маны, бо "нават нязначнае скажэнне праўды можа мець небяспечныя вынікі", – слушна папярэджвае папа Францішак.*

*Асабіста мне вельмі імпануе думка Бенедыкта XVI пра тое, што, каб навучыцца камунікацыі, трэба навучыцца слухаць і сузіраць, а не толькі прамаўляць: "Гэта асабліва важна для тых, хто працуе ў сферы евангелізацыі, – кажа Папа, – бо гэтаксама маўчанне, як і слова, з'яўляецца істотным і абавязковым элементам дзейнасці Касцёла ў галіне СМІ, каб па-новаму абвяшчаць Хрыста ў сучасным свеце".*

*Такім чынам, функцыя засяроджанасці, уважлівасці, немітуслівасці сёння, у гэтым сучасным жыццёвым галопе, у гэтай непамернай пагоні за сенсацыямі (на жаль, часам і ў хрысціянскіх СМІ таксама), вельмі важная і неабходная.*

*Не адкрыю нічога новага, калі скажу, што супрацоўнік хрысціянскіх СМІ павінен кіравацца найперш прынцыпамі сумленнасці і праўдзівасці, пра якую я ўжо казала. А яшчэ павінен быць сведкам Хрыста, бо нішто так не прамаўляе да сённяшніх людзей, як уласнае сведчанне, тое "лагоднае святло веры", пра якое казаў калісьці кардынал Джон Генры Ньюмэн і якое мы павінны несці ў сваіх сэрцах і сваім словам.*

*Калі казаць пра крыніцы натхнення, то часам знаходжу іх у садзе на родным хутары пад Лідаю, часам – слухаючы старажытны арган у сваім парафіяльным белагрудскім касцёле, а часам – чытаючы псалмы ў Брэвіярыі, калі малюся Ютрань, або гартаючы паэтычную "Літургію гадзін" Томаса Мэртана, а іншы раз, зусім нечакана – у скупым сонечным промні на заснежанай лапцы яліны, калі яна заіскрыцца, заззяе ўсімі магчымымі дыяментамі, акурат як у маленстве, і ты раптам усвядоміш сабе, што крыніцаю ўсяе гэтай прыгажосці і твайго натхнення ў тым ліку з'яўляецца Адзіны і Найвялікшы Творца... Хвала Яму за ўсё!*



**Кс. Юрый Жэгарын,**
*пробашч парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку і галоўны рэдактар парафіяльнай газеты "Каталіцкі Навагрудак"*

*У маі 2018 года выйшаў першы нумар нашай парафіяльнай газеты. Стараемся асвячаць духоўнае і культурнае жыццё супольнасці вернікаў у Навагрудку і дапамагаць ёй прымаць у ім актыўны ўдзел. Аднак найважнейшай мэтай з'яўляецца Евангелізацыя, інтэграцыя і духоўная фармацыя праз асвячэнне каталіцкага веравучэння.*

*Мы прытрымліваемся думкі, што хрысціянская журналістыка павінна спрыяць яднанню людзей на аснове евангельскай весткі. Калі вернікі больш пазнаюць адзін аднаго, становяцца бліжэйшымі, усталёўваецца дыялог і разуменне, паўстае сям'я дзяцей Божых – Касцёл. Нездарама ў дакументах Каталіцкага Касцёла падкрэсліваецца, што слова "communio", ад якога паходзіць слова "камунікацыя", азначае яднанне.*

*Асноўным, універсальным прынцыпам, якім у першую чаргу кіруемся ў сваёй працы, з'яўляецца любоў да Бога і да бліжняга, як да самога сябе. На гэтай падставе іншыя прынцыпы фарміруюцца самі ў працэсе працы і дыялогу. Зыходзячы з пазіцыі любові, перад хрысціянскім журналістам адкрываюцца новыя і вельмі шырокія далягляды.*

*Вельмі цешыць, што вернікі, сувязь з парафіяй якіх дастаткова слабая, калі даведваюцца больш аб жыцці супольнасці, стараюцца быць актыўнейшымі, ахвотней уключаюцца ў парафіяльнае жыццё, бліжэй знаёмяцца паміж сабой, пачынаюць сябраваць і перастаюць насцярожана адносіцца адзін да аднаго. Так сувязь паміж людзьмі паглыбляецца і супольнасць вернікаў набліжаецца да ідэалу і мэты кожнай парафіі – адысці ад ананімнасці і стаць сям'ёй Божых дзяцей.*

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

*Папа Францішак*



*Згодна з Божай задумай, чалавечыя зносіны з'яўляюцца важным інструментам жыцця ў супольнасці. Чалавек, створаны па вобразе і падабенстве Усемагутнага, здольны выражаць і дзяліцца тым, што сапраўднае, добрае, прыгожае. Здольны расказаць аб сваім досведзе, будуючы такім чынам памяць і разуменне падзей. Аднак, калі ён імкнецца за сваім пыхлівым эгаізмам, можа скажона выкарыстоўваць здольнасці камунікацыі, як гэта паказваюць з самага пачатку біблійныя падзеі Каіна і Авеля, а таксама Вавілонскай вежы (параўн.: Быц 4, 1–16; 11, 1–9). Скажэнне праўды з'яўляецца тыповым праяўленнем гэтай дэфармацыі, як на індывідуальным узроўні, так і на калектыўным. А захоўваючы вернасць логіцы Бога, камунікацыя становіцца пляцоўкай выражэння ўласнай адказнасці ў шуканні праўды і будаванні дабра.*

*Сёння, у сітуацыі ўсё больш хуткай камуніацыі і ў межах лічбавай сістэмы мы з'яўляемся сведкамі з'явы т. зв. "фальшывых навін". [...] Найлепшы антыдот ад фальшы – не стратэгіі, а вольныя ад прагнасці людзі, гатовыя выслухаць, якія праз цяжкасці шчырага дыялогу дазваляюць праўдзе ўбачыць свет; асобы, кіруемыя дабром, якія бяруць на сябе адказнасць за ўжыванне мовы. Калі выхадам з распаўсюджвання дэзінфармацыі з'яўляецца адказнасць, то асабліва зацікаўленым павінен быць той, хто паводле сваёй прафесіі нясе адказнасць за інфармацыю, г. зн. журналіст – ахоўнік звестак. У сучасным свеце ён выконвае не толькі працу, але і сапраўдную місію, у поўным значэнні гэтага слова. У шаленстве навін і патоку гарачых тэм яго задача – нагадаць, што ў цэнтры навіны знаходзіцца не хуткасць яе трансляцыі і ўплыў на атрымальнікаў, а асоба. Інфармаванне – гэта фарміраванне; яно мае штосьці супольнае з жыццём людзей. Таму праўдзівасць крыніц і ахоўванне камунікацыі з'яўляюцца сапраўднымі працэсамі развіцця дабра, якія нараджаюць давер і адкрываюць дарогі да адзінства і спакою.*

*Такім чынам, мне хацелася б заахвоціць да распаўсюджвання журналістыкі спакою. Пад гэтым разумею не "дабрадушную" журналістыку, якая адмаўляе існаванне сур'ёзных праблем і прымае некаторыя непрыемныя адценні. Наадварот, маю на ўвазе журналістыку без крывадушнасці, варожую фальшу, лозунгам для эфектнасці і паказным заяўленням. Журналістыку, якая разумеецца як служэнне ўсім людзям.*

*Фрагменты Паслання на 52-гі Сусветны дзень СМІ*

# Несці радасць Евангелля

***Кожны кавалак дарогі, пераадолены чалавекам на працягу яго жыцця, з'яўляецца добрай нагодай, каб зрабіць пэўнае падсумаванне, а таксама каб падзякаваць Усемагутнаму і ўсім, каго Божы Провід паставіў побач.***

***У сённяшнім нумары "Слова Жыцця" дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі з нагоды 5-ай гадавіны біскупскай сакры расказвае пра свае дасягненні і планы на будучыню.***



***– Ваша Эксцэленцыя, ці ўдалося здзейсніць планы і надзеі?***

– Цяжка казаць аб рэалізацыі плана, калі ён пастаўлены самім Богам і стала ажыццяўляецца праз штодзённую паслугу. На працягу свайго святарства я нястомна выконваю тое самае заданне, якое Настаўнік даручыў апосталам 2 тысячы гадоў таму: "Ідзіце па ўсім свеце і абвяшчайце Евангелле" (Мк 16, 15). "Ідзіце..." і, як заўважае папа Францішак, "будзьце сярод людзей". Таму мой план заключаецца найперш у тым, каб быць з чалавекам, крочыць разам з ім і падтрымліваць патрабуючага ласкай, якую я атрымаў праз паўнату святарства. Усякая ўвага, прысвечаная асобнаму чалавеку, кожная ўдзеленая парада ці адказ на турбуючае пытанне з'яўляюцца рэалізацыяй таго адзінага плана, які вызначыў нам Хрыстос. Кожны дотык да іншага чалавека, кожнае слова ці жэст – гэта выкананне Божых намераў. За плячыма застаўся досыць кароткі прамежак часу даўжынёй у 5 гадоў, але за ім цягнуцца чарговыя дні і гады, насычаныя магчымасцямі сустрэчы з братам і сястрой.

Памятаючы словы заступніка святароў св. Яна Марыі Віянэя аб тым, што кожны душпастыр жыве не для сябе, а для ўсіх людзей, я хацеў бы надалей служыць вернікам. Быць для іх, быць адным з іх!

***– Якія ўражанні засталіся ў Вас пасля сустрэч з нашымі дыяцэзіянамі?***

– Спатканне з іншым чалавекам – гэта заўсёды багацце, паколькі кожная асоба выключная і непаўторная. Яна з'яўляецца вобразам самога Бога. Чалавек – гэта таксама люстэрка, у якім можам разглядзець саміх сябе. Дзякуючы таму, што мы, святары, з'яўляемся цэлебрантамі Божых дароў, перадаём людзям тое, што самі атрымалі ад Стварыцеля.

Падчас сакраментальных паслуг я сустрэў мноства людзей і меў прыемнасць дзяліць з імі самыя радасныя хвіліны іх жыцця. Хрысцячы, бачыў зязяючыя вочы бацькоў, якія цешыліся, што іх дачку ці сына прымаюць у супольнасць Касцёла. Удзяляючы дзецям Першую св. Камунію, захапляўся прыгажосцю іх душ, адкрытых на Бога і свет. Гледзячы на моладзь, якая прымае сакрамант канфірмацыі, дзівіўся яе запалу, з якім ахвотна даручала ўласнае жыццё моцы Божага Духа, пацвярджаючы свой выбар Хрыстовай дарогі. Блаславіў сужэнскія саюзы, намашчваў спрацаваныя далоні вернікаў, якіх закранула хвароба ці цярпенне, яднаў з Богам у сакраманце пакаяння і паяднання...

Аднак мушу прызнаць, што важным досведам і адначасова вялікай ласкай было для мяне ўдзяленне святарскага пасвячэння. Я ўсведамляю, што накладваю рукі на кандыдата, які праз хвіліну сам будзе цэлебраваць св. Імшу, далей перадаючы ласку, дабрыню, любоў і міласэрнасць Бога. Гэта асаблівае перажыванне і дар ад Пана.

***– У епіскапаце Беларусі Вы адказваеце за душпастырства моладзі. Якія з гэтага вынікаюць абавязкі?***

– Абавязкаў дастаткова шмат. Аднак за найважнейшы трэба прызнаць спадарожнічанне маладым людзям, што падкрэсліў і апошні сінод біскупаў, прысвечаны моладзі. Я быў разам з маладзёнамі на Сусветных днях моладзі ў Кракаве, вырушыў таксама ў далёкую і дагэтуль невядомую нам Панаму. Цешуся вельмі, што мог быць з нашай моладдзю, паколькі яна сапраўды здольна "заражаць" энергіяй. Яе радасць, спантаннасць, адкрытасць – гэта вялікае багацце, якое заўсёды спрабую зачарпнуць таксама для сябе.

У будучым пастараемся яшчэ больш увагі прысвячаць душпастырству маладых. Мы павінны вучыцца слухаць нашу моладзь, каб магчы пазней адпаведным чынам зарыентаваць. Гэта вельмі важна, бо менавіта ад маладых людзей залежыць наша заўтра.

***– З якімі праблемамі і радасцямі моладзі Вы сутыкнуліся?***

– Сучасны свет вельмі захапляльны. Ён заахвочвае да свабоды ад стрэсу, да вольнасці і незалежнасці. Маладыя людзі належаць да яго, прысутнічаюць у ім. Таму вельмі часта губляюцца ва ўсім гэтым, выбіраюць дарогу напрасткі, а ў выніку губляюць сэнс жыцця. Дапасоўваюць Евангелле да свету, а павінна ж быць наадварот – яны мусяць жыццё дапасоўваць да Евангелля. І гэта праблема.

Сёння вера патрабуе ад маладых людзей мужнасці: каб захаваць сваю тоеснасць і вартасць, каб не зняць крыжык з шыі, каб публічна засведчыць аб сваёй прыналежнасці да Хрыстовага Касцёла, каб быць апосталам для іншых. Тыя, хто ўжо адкрыў Пана ў сваім жыцці і ідзе за Ім, павінны дапамагаць братам дайсці да Збаўцы. Для гэтага не трэба звышнатуральнай моцы, дастаткова быць Яго сведкам, сапраўдным і шчырым вучнем, які здольны слухаць Яго і ісці Яго дарогамі.

Гаворачы аб радасці, варта падкрэсліць шчырасць, энтузіязм і аптымізм, якія спадарожнічаюць нашай моладзі ў штодзённым абвяшчэнні Хрыстовага Евангелля сваім жыццём. Мяне вельмі цешыць, што наш Касцёл прыгожы, паколькі ў ім столькі цудоўных маладых людзей, якія прымаюць актыўны ўдзел у разнастайных сустрэчах і акцыях у сваіх парафіях і дыяцэзіі.

Апостальскі запал і радасць жыцця моладзі ажыўляюць Касцёл, спрыяючы росту Божага Валадарства ў свеце.

***– Ваша Эксцэленцыя, якая сустрэча за апошнія 5 гадоў асабівым чынам захавалася ў Вашай памяці?***

– Самая незвычайная для мяне сустрэча была звязана з уменнем перажываць цярпенне. Ужо на працягу многіх гадоў я знаёмы з адной пажылой асобай (сёння ёй больш за 90 гадоў), якая жыве недалёка ад Гродна. Перажыла спачатку ампутацыю адной нагі, з часам – другой... Наведваю яе, калі маю такую магчымасць. І ні разу яшчэ не пачуў ні слова наракання, бунту ці жалю... Падчас кожнай сустрэчы размаўляе са мной так, нібы ўсё добра. Ніколі не засяроджвае ўвагу на сваім цярпенні і асабістай трагедыі. Пераносіць усё з пакорай.

Уменне гэтай жанчыны прыняць Божую волю з'яўляецца павучальным прыкладам таго, як трэба перажываць уласныя цярпенні і цяжкасці. Яна здольна несці крыж сваёй хваробы адважна, з малітвай на вуснах.

***– "Радасць Евангелля" – словы, якія Вы выбралі дэвізам сваёй біскупскай паслугі. Як яны рэалізуюцца ў паўсядзённасці?***

– Галоўнае заданне членаў Касцёла – абвяшчаць Добрую Навіну, дзяліцца яе святлом, а не замыкацца ў сваім ізаляваным коле. Святы Айцец Францішак у сваёй адгартацыі "Evangelii gaudium" пісаў, што "ёсць хрысціяне, якія, здаецца, жывуць Вялікім постам без Вялікадня". Таму трэба засяроджвацца на тым, што ў Евангеллі найбольш прывабнае, і тады радасць напоўніць сэрца ды ўсё чалавечае жыццё. З Езусам Хрыстом радасць заўсёды нараджаецца і адраджаецца!

Я выбраў гэтыя словы дэвізам сваёй паслугі, паколькі ўсвядоміў, што радасць з'яўляецца знакам кожнага хрысціяніна. Вызнаўца Хрыста не можа быць сумным! Святы Дух вучыць нас любіць і напаўняе душу радасцю. Яна нібы пячаць хрысціяніна: ёсць і ў болі, і ў цяжкасцях, нават у ганеннях.

Уваскрослы Пан Езус пакінуў нам 3 словы: мір, любоў і радасць. Таму праз прыняцце біскупскіх пасвячэнняў я быў заклікаsuccessfully несці гэтыя вялікія Божыя дары туды, куды мяне пасылае Касцёл. Стараюся несці радасць Евангелля ў парафіяльныя супольнасці, сем'і, ва ўсе асяроддзі і кожнаму верніку.

***– Што Вы хацелі б перадаць вернікам нашай дыяцэзіі?***

– У першую чаргу, я хацеў бы ад усяго сэрца сказаць "дзякуй" за малітоўнае спадарожнічанне і падтрымку, якія я нястомна адчуваю.

Старэйшаму пакаленню дзякую за дар веры і трыванне ў Касцёле. Трымайцеся Хрыстовага крыжа, і тады зможам быць упэўнены ў заўтрашнім дні.

Бацькам дзякую за прыгожы прыклад, які даеце сваім дзецям. Выхавайце іх добрымі людзьмі! Пакажыце ім Бога, навучыце шанаваць святое!

Моладзі дзякую за аўтэнтычнасць і евангельскі запал. Не згубіце ў жыцці таго, што з'яўляецца сапраўднай крыніцай усяго!

Дзецям дзякую за прастату і прыгажосць сэрца! Выхоўвайце ў сабе Божае жыццё і цешцеся ўсяму, што вам Пан Бог сваёй шчодрай рукой удзяляе!

Святарам, манаскім сёстрам і тым, хто пачуў голас Хрыста, дзякую за кожнае праяўленне зычлівасці і штодзённую адданасць у абвяшчэнні Евангелля. Няхай Хрыстовае "Ідзі за Мной" заўсёды ўказвае вам простыя і надзейныя шляхі!

*Кс. Юрый Марціновіч*





# Міфы пра манаства

● працяг са с. 1

**На жаль, сёння часта можна пачуць меркаванне, што Касцёл перажывае крызіс пакліканняў. Можам назіраць, што грамадскае ўспрыманне манаства з цягам часу нарадзіла пэўныя стэрэатыпы. Магчыма, гэта з'яўляецца адной з прычын таго, чаму вернікам, якія адчулі прагненне прысвяціць сябе Богу, часам не стае адвагі зрабіць гэты крок.**

**Разбіраюцца ў здагадках і аспрэчваюць іх кансэкраваныя асобы, якія служаць у Гродзенскай дыяцэзіі.**



**А. Павел Раманчук**
з Ордэна Братоў Меншых Канвентуальных (францысканцы)

## Абяцанне паслухмянасці адбірае права прымаць уласныя рашэнні

*Паслухмянасць з'яўляецца цнотай, якую мы выхоўваем штодзённа. Аднак яна не паралізуе, не тармозіць і ніякім чынам не абмяжоўвае нашы дзеянні, а кантралюе іх. Не з'яўляецца таксама формай дамінавання адных над другімі ці магчымасцю кіраваць сабратамі згодна з уласнымі інтарэсамі.*

*Служачы ў парафіі, калі я прагну арганізаваць штосьці для вернікаў, спачатку шукаю згоды пробашча, каб пачуць яго думку як асобы больш вопытнай за мяне. Мы размаўляем і прымаем пэўнае рашэнне для супольнай карысці. Калі хачу правесці вольны час па-за кляштарам, зноў жа інфармую аб сваіх планах пробашча. Кожны з братоў абавязаны прысутнічаць падчас пэўных падзей на працягу дня: на св. Імшы, малітве, пасілках. Але лічу, што падобныя дысцыплінарныя патрабаванні неабходны для добрай арганізацыі чалавечай дзейнасці, таму не належыць атаясамліваць з імі паслухмянасць. Яна ў манаскім жыцці з'яўляецца нашмат глыбейшай. Глядзець на яе трэба праз прызму непасрэдных адносін паміж Усемагутным і кожным асобным чалавекам. Мы разумеем гэтую цноту як прыладу распазнання Божай волі, падказку: як трэба жыць, каб адчуваць сябе шчаслівым і ў бяспецы.*



**С. Назарыя Міклаш**
з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта (назарэтанкі)

## У кляштар ідуць дзяўчаты, якія не могуць уладкаваць асабістае жыццё

*Дзяўчаты становяцца манахінямі па розных прычынах. Часцей за ўсё, гэта пошук Бога або саміх сябе. Мудрасць Касцёла заключаецца ў тым, што ён дае кандыдаткам час фармацыі, роздуму і малітвы, каб маглі распазнаць, ці адпаведны шлях выбіраюць для сябе. Важна тое, што застаючыся ў супольнасці, яны застаюцца там для Госпада, а не дзеля ўцёкаў ад рэальнасці.*

*Калі я назіраю за сёстрамі са сваёй кангрэгацыі, бачу таленавітых прыгожых, крэатыўных, працавітых, спагадных асоб. Мяркую, кожная з іх магла б стаць добрай жонкай ці маці. Выбіраючы кансэкраванае жыццё, яны не выбралі горшую версію жыцця, але яго сутнасць – цалкам аддаць сябе Богу.*

## Калі асоба прымае рашэнне далучыцца да манаскай супольнасці, часцей за ўсё сустракае крытыку ці непрынацце з боку родных

*Пагаджуся, што рашэнне ўступіць у кляштар шмат каму падаецца незвычайным і сустракае незразуменне. Напрыклад, у маім выпадку таксама здарыліся пэўныя цяжкасці, але з цягам часу маё манаскае пакліканне стала сапраўдным скарбам для ўсёй сям'і. Упэўнена, блізкім кандыдата да кансэкрацыі дастаткова ўбачыць, што ён шчаслівы ў рэалізацыі свайго паклікання – і ўсе іх сумненні развеяцца.*



**С. Ірына Барцэвіч**
з Ордэна Братоў Босых Найсвяцейшай Панны Марыі з Гары Кармэль (кармэліты босыя)

## Кансэкраваныя асобы амаль не маюць "часу для сябе"

*Варта пачаць з таго, што кожны, хто мае абавязкі, мае права і на самую натуральную рэч – адпачынак. Кансэкраваная асоба – гэта, перш за ўсё, нармальны чалавек, у якога ёсць і абмежаванні, і вольнасці. Таму трэба было б крыху перафразаваць пытанне: "Як манаскія сёстры і браты праводзяць свой вольны час?".*

*Прысвячаючы шмат часу дзецям і моладзі, сёстрам салезіянкам хапае рэкрэацыі: культурны адпачынак праз гульню, цікавы фільм, творчую майстэрню.*

*Таксама ў нас, як, напэўна, у многіх іншых кангрэгацыях і ордэнах, панядзелак з'яўляецца Днём супольнасці. Гэты час мы прысвячаем на выезд ці вандроўку, духоўны адпачынак і ўпарадкаванне таго, на што не хапіла часу на працягу тыдня. Часта гэты дзень сыходзіць на тое, каб набрацца фізічных сіл і проста адаспацца. Але гэта таксама і магчымасць заняцца любімым хобі: пакулінарыць, папрактыкавацца ў музыцы ці спорце.*

*Раз у год мы маем так званыя канікулы. Тры тыдні для сябе. Можам правесці іх з роднымі ці сябрамі. Можам паехаць на адпачынак у іншую супольнасць, якая, напрыклад, знаходзіцца за мяжой. Толькі напярэдадні мы павінны ўзгадніць планы на водпуск з адказнай за інспекторыі. Зразумела, гэты час праходзіць у духу чысціні, паслухмянасці і беднасці.*

*Люблю выказванне св. Яна Боско, які паўтараў: "Адпачынак – гэта перамена дзейнасці". Так і мы імкнёмся выкарыстоўваць свой вольны час з карысцю і памятаць пра ўмеркаванне.*

## Жаночая супольнасць не можа існаваць без сталых непаразуменняў

*Мы выбіраем манаскую супольнасць, але не выбіраем людзей, якіх там спаткаем. "Будуйце масты, не сцены...", – заклікаў св. Ян Боско. І мы стараемся жыць паводле гэтага прынцыпу. Усе добра разумеюць, што нельга казаць дрэнна пра іншых. Тым больш, хто будзе нядобра выказвацца пра блізкіх людзей? Няўжо вы будзеце крыўдзіць маці, бацьку, брата ці сястру? Гэтак жа і ў нас. Манаская супольнасць становіцца сям'ёй, дзе мы імкнёмся любіць з усіх сіл, разам узрастаць на дарозе да святасці, прымаючы адна адну з сястрынскай любоўю. Аб'яднаныя ў Духу, мы пакліканы сведчыць сваім жыццём аб Божай Любові, як адно сэрца і адна душа.*

*Зразумела, непаразуменні здараюцца, але з дапамогай Госпада мы з імі спраўляемся.*

*Дарэчы, хачу адзначыць, што я сустракалася з процілеглым меркаваннем: нібы дастаткова пераступіць парог кляштара – і аўтаматычна знікаюць усе недахопы, а ўзаемаадносіны з іншымі людзьмі становяцца ідэльнымі. Не! З сабой мы нясём увесь цяжар уласных заганаў і змагаемся з імі на працягу цэлага жыцця. Таму ўзнікненне спрэчак – нармальная справа. Канфліктныя сітуацыі вучаць слухаць іншага чалавека, прызнаваць свае памылкі і прасіць прабачэння. Шчаслівай з'яўляецца тая супольнасць ці сям'я, дзе кожная асоба працуе над сабой і імкнецца спасцігнуць вялікае мастацтва будавання адносін з бліжнім.*



**А. Казімір Мараўскі**
з Ордэна Братоў Босых Найсвяцейшай Панны Марыі з Гары Кармэль (кармэліты босыя)

## Трыванне ў чыстасці на працягу ўсяго жыцця немагчымае

*Пра "скапцоў дзеля Валадарства Нябеснага" Пан Езус выразна сказаў: "Хто можа зразумець гэта, няхай разумее!" (параўн.: Мц 19, 10–12). Такім чынам, жыццё ў чыстасці магчымае для тых асоб, якім была дадзена ласка зразумець яго. Аднак гэта дастаткова складаная справа. Без абсалютнага даверу Богу, без супрацоўніцтва з Яго ласкай, без духу малітвы і сакраментальнага жыцця яна часам можа здавацца бессэнсоўнай і нават немагчымай. Кожная кансэкраваная асоба была паклікана са свету з цэлым багажом добрага і дрэннага. Імкнучыся пераймаць Хрыста, яна свядома працуе над упарадкаваннем кожнай сферы свайго жыцця.*

*Сённяшні сексуальны лібералізм зацямняе бачанне духоўных спраў. Чалавек цэніць толькі матэрыяльнае, адчувальнае і прыемнае. Аскеза, адмаўлене, утаймаванне выклікаюць абурэнне і страх. Так часта можна пачуць пытанне: "Як можна жыць без сексу, без сям'і?". "Хто можа зразумець гэта, няхай разумее". Варта ўсвядоміць, што гэта не прымус, а евангельская парада. Аднак асоба, якая яе выконвае, атрымлівае вялікае благаслаўленне ад Бога і ўбачаць Яго тварам да твару.*

*Ангеліна Марцішэўская*




◆ *Святы Айцец зацвердзіў для публікацыі некаторыя дэкрэты Кангрэгацыі па справах канізацыі. Такім чынам, быў прызнаны цуд праз заступніцтва благаслаўлёнай Маргарыты Бэйс, якая належала да Францішканскага ордэна свецкіх. Гэта адкрывае шлях да яе канізацыі. Таксама было прызнана пакутніцтва Слугі Божай Марыі дэль Кармэн Лакаб Андзі і яе 13-ці паплечніц, манахінь з Ордэна французсканак канцэпцыяністак. Неўзабаве яны будуць абвешчаны благаслаўлёнымі. Акрамя гэтага прызнана гераічнае вымярэнне цнот польскай манахіні Ганны Каворэк, заснавальніцы кангрэгацыі сясцёр міхалітак, і пуэртарыканскай манахіні Марыі Саледад Санхурха Сантас. Наступным этапам на шляху да іх беатыфікацыі павінна стаць прызнанне цуду.*

◆ *Амаль трэць краін свету карыстаецца сцягамі, на якіх адлюстраваны рэлігійныя сімвалы. Некаторыя крыніцы падаюць, што ёсць 64 такія краіны. Палова з іх – 32 – маюць на сцягах крыжы. Крыж бясспрэчна з'яўляецца хрысціянскім сімвалам, аднак складана адназначна патлумачыць прычыны, па якіх ён упісаны на ўсіх гэтых сцягах.*

◆ *У бягучым годзе на амерыканскія кінаэкраны выходзіць фільм "Рой супраць Вэйда" – драма, якая распавядае гісторыю бясслаўнага рашэння Вярхоўнага суда ЗША, на падставе якога па ўсёй краіне былі легалізаваны "аборты па патрабаванні". У апошні час да ліку праціўнікаў фільма далучыўся і Фэйсбук. Сацыяльная сетка блакуе рэкламу і абмяжоўвае сродкі для папулярызацыі гэтага "прадукта" па прычыне "неадпаведнасці прынцыпам рэкламнай палітыкі". З-за пралайф-накіраванасці стужкі аўтары з самага пачатку працы сутыкаліся са шматлікімі цяжкасцямі, таму вымушаны былі на некаторы час утаіць асноўны пасыл фільма, а некаторыя сцэны запісалі ўпотай.*

◆ *Ніл МакДонаф, акцёр, які ўдзельнічаў у вядомых кіна- і тэлевізійных пастаноўках, жанаты ўжо 15 гадоў і мае пецярых дзяцей. У нядаўнім інтэрв'ю ён паведаміў, што ў 2010 годзе быў звольнены з працы, таму што з-за жонкі і сваіх рэлігійных перакананняў адмовіўся ад удзелу ў эратычных сцэнах падчас здымак серыяла для канала ABC. "Я не мог знайсці працу. Усе лічылі мяне фанатыкам, а я на першым месцы стаўлю Бога і сям'ю, і толькі потым – сябе. Так я жыву", – сказаў Ніл МакДонаф.*

◆ *Егіпецкае Міністэрства фінансаў сумесна з Дзяржаўным сакратарыятам па пытаннях старажытнасцей выпусціла 12 сярэбраных манет, якія прадстаўляюць шлях уцёкаў Святой Сям'і ў Егіпет. На аверсе манет змешчана выява Юзафа, Марыі і Дзіцятка Езус, назва аднаго з месцаў, з якім звязаны біблійны расказ, і словы з кнігі Ісаі: "Благаслаўлёны народ Мой, егіпцяне" (параўн.: Іс 19, 25). Тое ж самае месца адлюстравана на рэверсе.*

*credo.pro; aleteia.org*







### Манеты з фантана Трэві больш не для бедных

***"Карытас" Рымскай дыяцэзіі па рашэнні ўлад італьянскай сталіцы праз 2 месяцы страціць прыкладна паўтарамільённую датацыю.***

*Фантан Трэві – адзін з самых наведваемых і вядомых помнікаў Рыма. Многія турысты, якія прыходзяць сюды, кідаюць у ваду манеты, што павінна забяспечыць ім вяртанне ў Рым. Грошы рэгулярна вылоўліваюць супрацоўнікі кампаніі, адказнай за ўтрыманне гарадскіх фантанаў. З 2001 года гэтыя сродкі служылі фінансавай падтрымкай "Карытас" Рымскай дыяцэзіі.*

*З 1 красавіка адна частка грошай будзе трапляць кампаніі, якая клапоціцца аб фантанах, другую выкарыстаюць для падтрымання добрага стану помнікаў і фінансавання іншых сацыяльных праектаў.*




### Фрэска супраць ксенафобіі

***Група маладых мастакоў рыхтуе фрэску, якая будзе прэзентавана падчас св. Імшы на заканчэнне СДМ у Панаме.***

*Твор уяўляе сабой заклік да салідарнасці і братэрства па-над забабонамі і ксенафобіяй. У ім прадстаўлены Езус, Марыя, а таксама лодка, якая плыве праз мора і ў якой знаходзяцца пяцёра маладых людзей – прадстаўнікі 5-ці кантынентаў.*

*Малюнак складаецца са 153-ох панелей. Каардынатарам праекта з'яўляецца Іван Дэльгада. Яго падапечныя ўпершыню працуюць з выкарыстаннем тэхнікі акрылавага жывапісу, а падрыхтоўка фрэскі з'яўляецца для іх удасканаленнем не толькі мастацкага майстэрства, але і працы ў камандзе.*




### Адбудзецца Міжнародны форум моладзі

***Падзею, якая пройдзе ў чэрвені ў Рыме, арганізуе Дыкастэрыя па справах свецкіх, сям'і і жыцця.***

*На форум будуць запрошаны маладыя дэлегаты з усіх канферэнцый епіскапатаў і прадстаўнікі галоўных рухаў і касцёльных супольнасцей. Чакаецца таксама прысутнасць моладзі, якая ў якасці назіральнікаў прымала ўдзел у апошнім сінодзе, каб магла перадаць здабыты там досвед.*



## Ці будуць сужэнцы злучаны ў Небе?

*“Езус сказаў ім: «Дзеці гэтага веку жэняцца і выходзяць замуж. А тыя, хто будзе годны таго веку і ўваскрасення з мёртвых, не будуць ні жаніцца, ні выходзіць замуж, ні памерці ўжо не змогуць, бо яны роўныя анёлам і з’яўляюцца сынамі Божымі, будучы сынамі ўваскрасення»” (Лк 20, 34–36).*

*Шлюб для многіх людзей з’яўляецца пакліканнем. Яны знаходзяць у ім паўнату шчасця, школу любові, нанова вучацца бачыць прыгажосць у свеце.*

*Здараецца, некаторым людзям сэрца падказвае, што каханы чалавек, які адышоў у вечнасць, павінен заўсёды заставацца самым важным у жыцці. Як правіла, гэта дыктуецца надзеяй на спатканне з каханым (каханай) у Божым Валадарстве.*

*Падчас шлюбавання маладыя людзі прысягаюць, што не расстануцца аж да смерці. Гэта сведчыць аб тым, што сакрамант сужэнства скончыцца ў зямным жыцці. Аднак, гэта не азначае, што прыйдзе канец каханню.*

*У Касцёле ніколі не было сумненняў адносна таго, што любая сапраўдная любоў не толькі будзе трываць у вечным жыцці, але яшчэ ачысціцца і ўдасканаліцца. Спецыфічнасць і ўнікальнасць любові, якая злучае мужа і жонку, у Небе раскрываецца ва ўсёй сваёй прыгажосці, для нас цяпер наогул няўяўнай.*

*Дык як жа будзе выглядаць любоў у Небе? Мы будзем там жыць, як анёлы. Містыкі Касцёла кажуць, што анёлы жывуць у сяброўстве, любові і духоўнай блізасці адзін з адным у прысутнасці Бога. Нам складана гэта зразумець. На Нябёсах мы будзем сябраваць з усімі, у тым ліку з тымі, хто атрымаў сакрамант сужэнства. Жыццё гэтых людзей абапіралася на імкненні да дасканалага шчасця, таму яны там яго і знайшлі.*

*Св. Ян Златавуст напісаў, што ў Небе мы знойдзем іншае, лепшае яднанне ў Богу, чым у сужэнстве. Бог ёсць любоў, і ў вечнасці мы будзем напаўняцца ёю ў той ступені, каб стаць Ягонай часткай. Там адбудзецца яднанне адной душы з другой.*

*Такім чынам, хоць сужэнства заканчваецца на зямлі, яго працяг магчымы на Нябёсах.*

*Кс. Алег Кудэрка*
***Паводле grodnensis.by***

# ЯК УМАЦАВАЦЬ КАТАЛІЦКУЮ СЯМ’Ю?

***Адным з найважнейшых фактараў, якія ўплываюць на стварэнне і ўмацаванне сувязей паміж членамі сям’і, з’яўляецца сумеснае правядзенне часу. У гэтым няма нічога дзіўнага, паколькі знаходжанне адзін з адным можа і павінна быць тым, што яднае дамачадцаў. Аднак само па сабе быццё разам, пазбаўленае астатніх элементаў, што ствараюць сувязь, зусім не абавязана яднаць. Можа аказацца, што члены сям’і, якія жывуць у адным доме, пазбаўлены ўзаемных адносін і не злучаны нічым, акрамя месца жыхарства. Давайце прыглядзімся да канкрэтных паказчыкаў, якія могуць дапамагчы ва ўдасканаленні сямейнага жыцця.***

## СЯМЕЙНАЯ МАЛІТВА

Моц супольнай малітвы вельмі вялікая. Менавіта яна павінна быць цэнтрам і сэрцам сямейнага жыцця. Яе адсутнасць з’яўляецца адной з галоўных прычын сварак, горычы, холаду і падзелаў. Варта памятаць: хоць, можа, на думку сучаснага свету гэта недарэчна і нямодна, хрысціяніну цяжка ўявіць прыгажэйшы прыклад еднасці і любові ў сям’і. Не трэба саромецца рэчаў, якія павучаюць і надаюць жыццю глыбейшы сэнс.

## ГАЛАВА СЯМ’І

Калі гэта магчыма, тата павінен быць галавой сям’і, а мама – яе сэрцам. Бацька мае ўзяць на сябе ролю духоўнага правадыра: дэманстраваць паставу адкрытасці на жыццё, а таксама любіць жонку і дзяцей. Як духоўны кіраўнік сям’і ён таксама выконвае функцыю лідара ў сямейнай малітве. З каго павінен браць прыклад сучасны тата? Найлепшым узорам бацькі тут, на зямлі, быў св. Юзаф.

## ПРАБАЧЭННЕ І МІЛАСЭРНАСЦЬ

Адносіны ў многіх сем’ях прасякнуты холадам, абыякавасцю і горыччу. Чаму? Прычынай можа быць адсутнасць прабачэння. Члены сям’і павінны быць міласэрнымі і прабачаць адзін аднаму. Не 7, а 77 разоў, ці заўсёды. Асобам, якія прагнуць выхоўваць пакору ў сэрцы, трэба навучыцца штодзённа ўжываць слова “прабач”, а таксама “прабачаю”. Прамоўленыя шчыра і з любоўю, яны могуць выратаваць не адну сям’ю.

## ПАСТАВА СЛУГІ

Варта памятаць, што Езус Хрыстус пасля Апошняй вячэры вымыў апосталам ногі. Кожны член сям’і не павінен чакаць, што яго абслужаць, але мусіць заўсёды быць гатовы служыць сваім бліжнім па прыкладзе Сына Чалавечага, які “не для таго прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць жыццё сваё для адкуплення многіх” (параўн.: Мц 20, 28). Любоў і служэнне на самой справе з’яўляюцца сінонімамі.

## ВЫРАЖЭННЕ ЎДЗЯЧНАСЦІ

Такія непрыкметныя словы “дзякую табе”, якія людзі, на жаль, часта абмінаюць, з’яўляюцца надзвычай важным інгрэдыентам у рэцэпце сямейнага шчасця. Св. Ігнацый Лаёла казаў: “Сутнасць граху – няўдзячнасць”. Таму варта культываваць у нашых сем’ях паставу ўдзячнасці.

## СУПОЛЬНЫ ПАСІЛАК

Гэта найлепшы і самы натуральны час для інтэграцыі сям’і. Менавіта тады ўсе яе члены збіраюцца ў адным месцы і дзеляцца ўражаннямі, планамі, досведам. Падчас сумеснага спажывання ежы людзі яднаюцца паміж сабой словам, узрастаюць ва ўзаемнай любові. А стол – такі вялікі, каб за ім маглі сесці ўсе жыхары разам – вельмі важная мэбля. Ён павінен быць у кожным доме. І чым часцей сям’я сядае за супольны пасілак, тым больш яе члены ведаюць адзін аб адным.

## СУМЕСНАЯ ПРАЦА

Маецца на ўвазе праца, якая выконваецца разам. Няважна, будзе гэта адбывацца дома ці па-за ім, галоўнае – каб для супольнай карысці. Сям’я можа займацца разам чымсьці празаічным: мыць посуд, прыбіраць дома, рабіць пакупкі, гатаваць ці працаваць у агародзе, але ўсё роўна гэта будзе ўмацоўваць сувязь. Сумесныя дзеянні дазваляюць заўважыць здольнасці і таленты, утоеныя ў нашых блізкіх. Акрамя таго, яны дазваляюць ацаніць уклад у справу кожнага з членаў сям’і. Дзякуючы гэтаму ўзрастае павага да плёну супольных намаганняў, што прадухіляе досыць частыя спрэчкі, якія паўстаюць з-за недаацэнкі працы іншых.

## ВЯДЗЕННЕ РАЗМОВЫ

Дыялог у сям’і не можа зводзіцца да абмену інфармацыяй ці аналізу фактаў, але павінен датычыцца пачуццяў і перажыванняў кожнага яе члена. Праз размову неабходна выражаць любоў, давер і вялікую зычлівасць да дамачадцаў. Уменне правільнай камунікацыі паміж людзьмі значна ўплывае на развіццё сямейных сувязей. Там, дзе ёсць магчымасць пагаварыць, каб лепш пазнаць адзін аднаго, яны моцныя і трывалыя. І наадварот, у сем’ях, дзе не хапае часу ці жадання для супольнага дыялогу, асобныя іх члены ўсё часцей шукаюць падтрымкі па-за домам. У выпадку падлеткаў гэта часам могуць быць нефармальныя групы, субкультуры і нават секты.

## СВЯТКАВАННЕ І СЯМЕЙНАЯ ТРАДЫЦЫЯ

Каб прышчапіць у сям’і здаровую дозу радасці, трэба развіваць навык святкавання. Дні нараджэння, гадавіны, хрост, шлюб, святы Божага Нараджэння ці Вялікдзень – усе гэтыя ўрачыстасці могуць быць нагодай для святкавання і крыніцай энергіі. Элементам, які яднае сям’ю, але пра які, на жаль, вельмі часта забываюцца, з’яўляецца падтрымліваемая дамачадцамі традыцыя. Звычаі, што перадаюцца з пакалення ў пакаленне, умацоўваюць пачуццё тоеснасці і прыналежнасці. Аднак варта памятаць, што яны не ўзнікаюць самі па сабе. Гэта вынік свядомых дзеянняў бацькоў, сталага ініцыіравання падзей і сітуацый аж да моманту, калі ўсім не пачне здавацца, што так было заўсёды.

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*

## НАВІНЫ





# ВІЗІТ НУНЦЫЯ Ў ІЎЕ

Апостальскі нунцый у Беларусі кс. абп Габар Пінтэр наведаў Іўе. Падчас прабывання ў горадзе, які славіцца тым, што ў ім ужо шмат гадоў пераплятаюцца культуры іудзеяў, беларусаў, татараў, палякаў, іерарх завітаў у мясцовую мячэць, дзе пазнаёміўся з гісторыяй супольнасці татараў-мусульман. Іўе неафіцыйна лічыцца татарскай сталіцай Беларусі, бо менавіта тут жыве самая вялікая іх абшчына.

У межах Тыдня малітвы аб еднасці хрысціян арцыбіскуп наведаў мясцовую праваслаўную царкву, дзе памаліўся перад іконай св. мучаніка Гаўрыіла Беластоцкага.

Дыпламатычны прадстаўнік Ватыкана цэлебраваў св. Імшу ў мясцовым касцёле свсв. апосталаў Пятра і Паўла, а таксама прыняў удзел у XVI Фестывалі калядак і пастаралак у Доме культуры. Звяртаючыся да ўдзельнікаў фестывалю, якіх у гэтым годзе было больш за 300 чалавек, абп Пінтэр падкрэсліў, што музыка з'яўляецца вялікім дарам ад Бога, за які варта дзякаваць. Падчас побыту ў Іўі іерарху спадарожнічаў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.

## ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі асвяціў пакоі і залы семінарыі.

Клерыкі на чале з кс. прэфектам Андрэем Лішко наведалі дзіцячы прытулак у Радуні, выхаванцы якога падрыхтавалі для гасцей цудоўную тэатральную пастаноўку аб Божым Нараджэнні.

## КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



У Авальнай зале Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы "Кракаўскія калядныя батлейкі", дзе прадстаўлена 15 экспанатаў. Кракаўскія батлейкі ў 2018 годзе былі ўнесены ў рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва. Наведаць выставу можна да 17 лютага.

## ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



Група моладзі на чале з кс. б-пам Юзафам Станеўскім вырушыла на XXXIV Сусветныя дні моладзі ў Панаму. Перад выездам у зале Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне адбылася прэзентацыя гімна СДМ на беларускай мове.

## АДНЫМ РАДКОМ

• Дзеці з цяжкасцямі развіцця наведалі парафію Святога Духа ў Гродне. • Аплаткавая сустрэча для ўдзельнікаў пешых пілігрымак з Ваўкавыска ў дыяцэзіяльныя санктуарыі ў Тракелях і Росі адбылася ў Ваўкавыску. • Дзіцячую калядную пастаноўку прадставілі ў пабрыгіцкім касцёле ў Гродне. • Пілігрымы з Віленшчыны завіталі ў Гродна, каб падзяліцца аплаткай са сваім былым пробашчам кс. б-пам Аляксандрам Кашкевічам. • Аплаткавая сустрэча са студэнтамі Міждыяцэзіяльных курсаў сямейнага жыцця прайшла ў Гродне. • Сімпозіум на тэму хрысціянскага бачання сям'і адбыўся ў Росі. • Аплаткай падзяліліся навучэнцы Тэалагічнага каледжа імя св. Казіміра. • Брат Аляксандр Дзіц з Суботнікаў прыняў вечныя манаскія абяцанні ў капуцынаў. • Пантаміму пра бл. Рэгіну Протман прадставілі ў Зэльве.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## АНОНСЫ

### ДЗЕНЬ КАНСЭКРАВАНАГА ЖЫЦЦЯ АДЗНАЧАЦЬ У ГРОДНЕ

**У сустрэчы, якая абудзецца 4 лютага, прымуць удзел манаскія айцы і сёстры розных ордэнаў і кангрэгацый, якія выконваюць паслугу ў Гродзенскай дыяцэзіі.**

Праграма сустрэчы:

10.00 – канферэнцыя і выступленне Найсвяцейшага Сакраманту. Магчымасць прыступіць да сакраманту пакаяння і паяднання *(рэктаральны касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі);*

12.00 – св. Імша ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя.

### МУЗЫЧНЫ ФЭСТ ПРОЙДЗЕ Ў БАРАНАВІЧАХ

**VIII Фестываль хрысціянскай музыкі пад назвай "Дастукацца да нябёсаў" адбудзецца 9 лютага.**

Мерапрыемства распачнецца ў 18.00 у будынку ДКТ "Тэкстыльшчыкаў" па адрасе: Баранавічы, вул. Кірава, 62. Уваход вольны.

*Арганізатарам фэсту з'яўляецца мясцовая парафія Божай Міласэрнасці і Маці Божай Вастрабрамскай. Адказны – кс. Павел Рудзьман.*

*Для таго, каб рабіць відэа ці фота на фестывалі, будзе патрэбна акрэдытацыя ад арганізатараў. Распаўсюджванне ўсялякай інфармацыі і выкарыстанне відэа і фота без спасылкі на аўтара забараняецца.*

### СЯМЕЙНЫЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў ЛЯСКОЎЦЫ

**Сустрэча пройдзе 1–3 лютага ў цэнтры ДКТ "Карытас" каля Бараўлянаў (Мінскі р-н). Яна дазволіць аднавіць і пераасэнсаваць свае сужэнскія адносіны праз прызму дыялогу.**

Дзякуючы ўнікальнай праграме, падрыхтаванай рухам "Сужэнскія сустрэчы", сямейныя пары атрымаюць дзейсны інструмент па выхадзе са шматлікіх канфліктных і крызісных сітуацый, паглыбяць давер і ўзаемаразуменне, нанова адкрыюць цеплыню сваіх адносін. Запрашаюцца ўсе сем'і, незалежна ад канфесійнай прыналежнасці і ад таго, жывуць яны ў шлюбе або толькі распісаны ў ЗАГСе.

*Усім неабходным удзельнікі будуць забяспечаны. Абавязковыя ўмовы: прысутнасць на сустрэчах абодвух сужэнцаў (без дзяцей), удзел ва ўсёй праграме. Тэлефоны для запісу: (8 029) 316-95-59 – Вольга, (8 029) 341-68-23 – Сяргей.*

### ДАВЕДАЙСЯ БОЛЬШ ПРА ЖЫЦЦЁ КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

**Новую інфармацыю, здымкі, відэа можна штодзённа знайсці на афіцыйным інтэрнэт-партале Гродзенскай дыяцэзіі.**




### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**2 лютага 1932 г.** – кс. Юзаф Зноска, *проб. Старaельня;*
**3 лютага 1984 г.** – а. Войцех Навачык OMI, *проб. Навагрудак;*
**3 лютага 1952 г.** – кс. Эдмунд Пяткевіч, *проб. Вялікія Эйсманты;*
**4 лютага 1977 г.** – кс. Казімір Раслеўскі, *проб. Ваўкавыск;*
**4 лютага 1992 г.** – кс. Казімір Баневіч, *ген. вік., проб. Ліда;*
**5 лютага 1910 г.** – кс. Тадэвуш Сідароніч, *проб. Белагруда;*
**9 лютага 2002 г.** – кс. Антоній Рафалка SDB, *проб. Ашмяны;*
**10 лютага 1948 г.** – кс. Раман Паноха, *вік. Радунь;*
**10 лютага 2003 г.** – кс. прэлат Люцыян Вайцяхоўскі, *праф. Гродзенскай ВДС.*

## Каляндар падзей

***28 студзеня***
*Успамін св. Тамаша Аквінскага, прэзбітэра і доктара Касцёла.*

***29 студзеня***
*Успамін св. Яна Боско, прэзбітэра.*

***1 лютага***
***5-ая гадавіна біскупскай сакры кс. б-па Юзафа Станеўскага. Молімся ў інтэнцыі дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі.***

***2 лютага***
*Свята Ахвяравання Пана (МБ Грамнічнай).*

***3 лютага***
*Успамін св. Блажэя, біскупа і мучаніка.*

***5 лютага***
*Успамін св. Агаты, панны і мучаніцы. У гэты дзень у святынях адбываецца бласлаўленне хлеба і вады.*

***6 лютага***
*Успамін св. Паўла Мікі і паплечнікаў, мучанікаў.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Студзень***
*Аб адзінстве і прымірэнні паміж хрысціянскімі супольнасцямі розных канфесій у дыяцэзіі, а таксама аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

***Люты***
*Аб захаванні духоўнай еднасці паміж вернікамі і святарамі, паміж святарамі і нашым біскупам Аляксандрам. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

